В этом сезона я решила более серьёзно понаблюдать за токами чомг. Для достижения цели соорудила плавучую засидку и практически каждое утро в 5 часов уже находилась в воде, в непосредственной близости от этих изящных птиц. Настойчивость моя была вознаграждена: практически сразу птицы перестали обращать внимание на засидку и вернулись к брачным играм.

**Большая поганка *(Podiceps cristatus)***
**Фото Татьяны Романовой**

Снимал усатых синиц много и в различных местах, благо, вид довольно демократичный в отношении к фотографу и позволяет себя снимать с 2-3 метров, не прибегая к маскировке. Прежде чем залететь с кормом в гнездо, птица осматривается по сторонам - вот тогда и получаются интересные кадры. Удивительно, но этот самец чаще прилетал с кормом в гнездо, нежели самка.

**Усатая Синица *(Panurus biarmicus)***
**Фото Николая Гулинского**



Фота Арцёма Халандача

## Назірай за птушкамі па-новаму

Крок за крокам падымаемся па старых і стромых прыступках касцёла пад самы дах. У пэўны момант, пераходзячы праз адкрыты адрэзак шляху з аднаго ўзроўня на другі, перад вачыма адкрываецца панарама Гродна. Яшчэ паўсюль ляжыць снег і далягляд пранізаны марознай свежасцю, але ўжо адчуваеш подых вясны. І сярод яго гучны крык сокалаў-пустэльг. Дык вось што яны бачаць з такой вышыні і як ўспрымаюць нас!

Што ж, паспрабуем і мы зірнуць на іх з іншага ракурсу.

Падняўшыся на гарышча, мы знаходзім, што да нішы за статуяй Святой Алены на фасадзе касцёла, у якой ужо не адзін год пасяхова выводзіць птушанят пара сокалаў, ёсць доступ праз невялікую адтуліну. Аб гэтым мы і марыць не маглі!

І праца закіпела: дзесяткі метраў кабелю, мадэм, шурупы, камп'ютары, наладка... Праз непрацяглы час мы ўжо маем першы відэазапіс з камеры, усталяванай у адтуліне за гнездавой нішай. На маніторы нашага кампутара самка пустальгі з цікаўнасцю разглядае камеру і нібы перадае ўсім гледачам прывітанне. І вось, нарэшце, распачаліся гадзіны відэатрансляцыі. Цяпер ўсе жадаючыя маглі глядзець на гэтых прыгожых і гучных сокалаў, не падымаючы ў гару галаву з прыстаўленым да вачэй біноклем, як быццам бы на герояў папулярнага серыяла, не адыходзячы ад манітораў камп'ютару і перажываючы разам з птушкамі ўсе важныя моманты іх жыцця...

Так і гэты нумар нашага часопісу - невялічкая спроба зазірнуць у свет птушак з іншага ракурсу: з большай цікаўнасцю і адказнасцю за іх лёс.

А для таго, каб гэта было рабіць прыемней і лягчэй, часопіс "Птушкі і мы" стаў поўнакаляровым і атрымаў новы фармат.

**Яўген Сліж**

# Змест


4-7 Прыродная спадчына
**Старая Віць: асушанае жыццё**
Арцём Халандач

8-11 Птушка года
**Пустальга on-line**
Сліж Яўген, Аляксандр Мініч

12-16 Нататкі натураліста
**"Сцэна", на якой галоўныя ролі выконваюць птушкі**
Арцем Халандач

17-20 Вакол свету
**Незнаёмы Кіпр**
Юрка Бакур

21 Актуально
**Официально в Белоруси 317 видов птиц**
Ирина Самусенко

22-23 Плакат
**Птушка 2010 года**

24 Арніталагічныя навіны

25-27 Записки натуралиста
**И решили луни, что остались одни**
Дмитрий Якубович

28-30 Нататкі натураліста
**Птушкі ў дарозе**
Андрэй Абрамчук

31 Записки натуралиста
**Кралька**
Олег Кальченко

32-35 Вокруг света
**Индийские мотивы...**
Денис Китель

36-37 Комикс
**Гракс снимает природу**

38-42 Зніклі назаўжды
**Моа. Апошнія птушкі-гіганты**
Дзьмітрый Вінчэўскі





Фота Чорнага Свіргуля *(Apus Apus)* Дзьмітрыя Якубовіча




Галоўны рэдактар: Фянчук Віктар Аляксандравіч
Рэдакцыйная рада:
Вінчэўскі Аляксандр Яўгенавіч,
Вінчэўскі Дзьмітрый Яўгенавіч,
Самусенка Ірына Эдуардаўна,
Чэркас Мікалай Данілавіч
Верстка: Гупянец Зміцер
Канцэпцыя нумара: Сліж Яўген
№ 1 – 2, 2010 год
наклад 1100 паас
Рэгістрацыйны №2713 ад 27.06.2008 г.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Наш адрас:
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
вул.Макаёнка, 8-313, 220114, Мінск Беларусь
Тэл. (017) 263 01 30, Факс (017) 263 06 13
E-mail: info@ptushki.org
www.ptushki.org

Для карэспандэнцыі
а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь

Дзейнасць ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком BirdLife International у Беларусі.
Надрукавана ў друкарні УП "Данарыт".
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494183 ад 03.04.2009.
Наклад 1100 паас.
Замова № 13036











# Старая Віць: асушанае жыццё

Малы арлец Віці пільнец

Арцём Халандач | Фота аўтара

**Дзіўныя мясціны, якія прырода надзяліла вялікай колькасцю прыгожых птушак. Чароўная зямля, што стварыла спрыяльныя ўмовы для існавання жыцця чалавека побач з прыродай. Мы, людзі, якія не жадаюць аб гэтым памятаць, думаць і жыць разам са скарбамі прыроды - сваёй Спадчынай...**




Тэрыторыя важная для птушак (ТВП) - гэта месца, якое з'яўляецца жыццёва важным для захавання папуляцыі аднаго альбо некалькіх відаў птушак падчас гнездавання, зімоўкі ці міграцыі.

Міжнародная праграма Important Bird Areas (Тэрыторыі важныя для птушак) пачала працаваць у 80-ыя гады 20 стагоддзя па ініцыятыве міжнароднай прыродаахоўнай асацыяцыі BirdLife International. Праграма накіравана на выяўленне і захаванне каштоўных тэрыторый, якія маюць важнае значэнне ў жыцці птушак. Зараз у ёй удзельнічаюць больш за 170 краін па ўсім свеце, выдзелена больш за 13 тысяч ТВП. На сённяшні момант у Беларусі налічваецца 49 ТВП. Праграму ТВП у Беларусі выконвае грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" ў супрацоўніцтве з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Цікавая назва – Віць. Чаму менавіта так была названа гэтая невялічкая рачулка? Можа многа гадоў таму нехта з нашых продкаў жыў побач з ёй і насіў імя Віць? А можа гэта проста слова, гукі якога адлюстроўваюць мелодыю спеваў нейкай птушкі - «віць, віць»? Чаму не?

Можа быць, калісьці невялікая рачулка Віць імкнулася да сваёй маці-Прыпяці, уздымаючы над сваімі берагамі спевы птушак. Але сёння ўжо гаворым: «раней». Менавіта раней яна ганарліва несла плёскат вады, спевы птушак, гукі ветру ў прыбярэжных дрэвах-волатах. Несла так, як напісала гэтую мелодыю прырода. Зараз жа яе плынь слабейшая. Яна ўжо не так насычана нотамі жыцця...

Аднойчы людзі прыпынілі тут "сваю працу на карысць зямлі", пакінуўшы пасля сябе спрамленыя ручаі і рэчкі, ператварыўшы прыгожыя балоты і рознакаляровыя паплавы ў палеткі, перарэзаныя дзенідзе каналамі. І гэта быў вельмі важны момант для сапраўднага




**ТВП: Старая Віць**
**Месцазнаходжанне: Гомельская вобласць, Рэчыцкі і Хойніцкі раёны.**
**Плошча: 38402 гектараў.**
**Нацыянальны статус аховы: не мае.**
**Міжнародны статус аховы: ТВП утворана ў 2005 годзе (крытэры B2: чорны бусел, арол-вужаед, палявы лунь, малы арлец).**

**Гуменніцы праз Беларусь ляцяць!**

творцы – прыроды. Пачалася новая старонка гісторыі гэтай асушанай зямлі. Напэўна, самыя сумленныя з мясцовых людзей нарэшце абудзіліся і пачалі дапамагаць прыродзе. Яны, нібы медыкі, пачалі спыняць крываток з жылаў зямлі: ставілі плаціны, каб вада заставалася там, дзе яна неабходная для сапраўднага жыцця. Хутка тут пачалі з'яўляцца новыя невялічкія азёры. Вада ўжо нават не знаходзіла сабе месца ў іх і пачала несці новае жыццё спачатку на палеткі, а потым і ў лясы. Наўздагон за вадой пацягнуліся жывёлы. І калі гукіматораў меліярацыйнай тэхнікі сціхлі, ім на змену прыйшлі радасныя спевы птушак.

На шчасце, ніколі прырода не застаецца без увагі людзей, неабыякавых да яе будучыні. Так адбылося і тут, на Віці. Некалі выпрацаваныя торфараспрацоўкі былі зноў наводненыя чалавекам. З цюкоў саломы мясцовыя жыхары пабудавалі плаціну. Такім чынам канал, праз які вада выцякала з былых балот, перастаў выконваць сваю чорную справу. Вада напоўніла жыццём былыя торфараспрацоўкі - і на іх месцы ўтварылася каля 220 гектараў азёр. Увесну гэтыя мясціны прыцягваюць да сябе мноства качак, вялікіх белых чапель, а ў мінулым годзе тут вывялі сваіх птушанят дзве сям'і шыпуноў. На палях побач з'явіўся поплаўны лунь. Сярод былых каналаў, сухіх лугоў, палёў і лясоў пачалася новая старонка жыцця, якая цяпер ужо пішацца пад шчыльным наглядам навукоўцаў-даследчыкаў.


Ці гэта наша зямля?

На палях побач з вёскай Хобнае перад сваёй далёкай вандроўкай пачалі збірацца чароды шэрых жураваў. Кожную восень яны напаўняюць паветра над Віццю сваім чароўным гуканнем. Яго рэха коціцца навокал скрозь кастрычніцкае паветра. Гэта сапраўднае шчырае развітанне, надзея на новую сустрэчу з мясцінамі, якія дораць птушкам жыццё.

Аднак не толькі птушкам, але і нам, людзям, што павінны памятаць пра свае памылкі і больш не рабіць іх.



**Галубка голубу казала: "Адной галінкі будзе мала..."**

**Па-над спадчынай маёй зноў ляцяць журавы**

# Пустальга on-line

Яўген Сліж, Аляксандр Мініч

**Упершыню ў Беларусі за сямейным жыццём птушак можна было сачыць 24 гадзіны на суткі праз інтэрнэт. Дадзены праект, які праводзіўся ў межах кампаніі "Сокал-пустальга – птушка 2010 года", атрымалася рэалізаваць пры супрацы людзей і арганізацый з Беларусі, Швецыі і Польшчы. За таямніцамі жыцця беларускіх сокалаў на сайце www.birdwatch.by сачылі наведвальнікі з 97 краін свету.**

Увага! Вас здымаюць. Фота Леанід Шчаглоў

Ідэя назірання за сокаламі пры дапамозе вэб-камеры ўзнікла даўно, але толькі з абраннем пустальгі Птушкай 2010 года, яна стала не проста задумай. Для рэалізацыі праекта была сабрана ініцыятыўная група з сяброў Гродзенскага абласнога і Заходне-Палескага рэгіянальнага аддзяленняў АПБ, бо менавіта Брэст і Гродна лічацца самымі "пустальжынымі" гарадамі Беларусі.

Новыя ідэі заўсёды выклікаюць праблемы і цяжкасці, з якімі ты ніколі раней не сутыкаўся: як правільна выбраць камеру? Якім чынам яе замацаваць каля гнязда? Як наладзіць трансляцыю праз інтэрнэт? – вось толькі невялікі спіс пытанняў, якія збівалі нас з панталыку, але вырашэнне іх надавала яшчэ больш рашучасці рэалізаваць праект. Па гэтай прычыне з самага пачатку на дапамогу нашаму праекту прыйшлі самыя разнастайныя спецыялісты.



І вось надыйшоў той дзень, калі на сайце з'явілася сваесаблівае "акенца" ў гняздо пустальгі ў Брэсце. «Мы гэта зрабілі» - узрадваліся мы. Аднак новыя праблемы ўзніклі перад намі, некаторыя з іх аказаліся невырашальнымі: камеру ў Гродна так і не атрымалася вывесці ў рэжым масавых он-лайн назіранняў – занадта складанымі былі тэхнічныя праблемы, а калі пачалі "раскручваць" трансляцыю з Брэста на самым папулярным беларускім партале TUT.by, камера цэлы дзень не працавала, і больш за 300 наведвальнікаў змаглі толькі падзівіцца з чорнага квадрата на сваім экране. Нягледзячы на ўсе недахопы, недапрацоўкі і памылкі, праект прайшоў паспяхова, і многім наведвальнікам прыйшоўся даспадобы.


**Праект рэалізавалі:**







**Шчыра дзякуем за супрацу і дапамогу:**












Касцёл Узвышэння Святога Крыжа- Бернардынскі ў Гродна

**за тэхнічную падтрымку:**

Новые Медиа



ДАТАСТРИМ

а таксама ўсім, хто дапамагаў у арганізацыі і наладцы трансляцыі, прасоўванні і папулярызацыі старонкі.

# Гняздо ў Брэсце

Спачатку было невядома, ці загнязджуе пустальга ў дэкаратыўнай нішы на шматпавярховым жылым доме, у якім мы вырашылі ўсталяваць камеру? Верагоднасць гэтага была даволі вялікай, улічваючы, што апошнія 5 гадоў сокалы тут гнездавалі. Першы час пасля ўсталёўкі камеры пустэльгі баяліся доўга заставацца ў гнездавой нішы. Аднак праз некалькі дзён на тэрыторыі з'явіліся канкурэнты – другая пара сокалаў, і жыццё прымусіла пераможцаў "жах перад камерай". І самая знакамітая у хуткім часе пара беларускіх птушак пачала капаць ямку пад гняздо і абжываць адтуліну.

Цяпер надыйшоў час уключаць камеру. І яна пачала запісваць відэа і рабіць скрыншоты, рэагуючы на рух у гняздзе. Спачатку, у першых днях красавіка, самец актыўна звяртаў увагу самкі на гняздо, часта залятаў туды з крыкамі і па некалькі разоў на дзень прыносіў у яго здабычу. Абедзве птушкі пачалі рыць ямку, прыкладна пасярэдзіне вялікай нішы, для адкладкі туды яек. Самка з кожным днём паглыбляла ямку, і вось ужо 17 красавіка ў гняздзе з'явілася першае яйка! Канешне ж для ўсіх, хто сачыў на сайце за жыццём сокалаў у рэжыме рэальнага часу, гэта стала своесаблівым святам. Аднак, самка не пачала наседжваць кладку с першага яйка, а пачакала, пакуль не адкладзе ўсе яйкі. Поўная кладка склала 5 яек, і адкладваліся яны з прамежкам ў 2 дні.

Дзякуючы трансляцыі, атрымалася высветліць, што яйкі з'уяляліся на свет раніцай з 9.30 да 11.25.

Пакуль пад рудым шкарлупіннем развіваліся будучыя драпежнікі, самец забяспечваў маці сваіх нашчадкаў па магчымасці разнастайнай ежай: то палёўку прынясе, то яшчарку, то землярыйку. Але часцей за ўсё гэта былі палёўкі. Падчас таго, як самка ела, пакідаючы гнездавую нішу, самец змяняў яе на яйках, хоць і не заўсёды чакаў моманту яе вяртання. Часам ён падымаўся і нецярпліва аглядаў з гнязда наваколле.

Амаль роўна праз месяц пасля пачатку плотнай інкубацыі кладкі, 22 траўня 2010 года ў 11 гадзін 40 хвілін, з'явіўся на свет першы беларускі назіраемы он-лайн пустальжонак. І адразу мы даведаліся пра тое, аб чым без камеры , магчыма, і не даведаліся б: самка з'ядае шкарлупінне, ужо не патрэбнае малому! У гэты ж дзень у 15.20 вылупіўся і другі пустальжонак. Яшчэ 3 з'явіліся на свет на наступны дзень.

Акрамя самкі, малых зрэдку спрабаваў карміць і самец. Калі птушаняты падраслі, здаралася, што ён з палявання прыносіў палёўку, а самкі ў гняздзе не было – ці то бацькоўскі інстынкт, ці то вялікая адказнасць яго падштурхоўвала, але ён пачынаў карміць птушанят, хоць і выглядала гэта не надта зграбна. Звычайна ў такіх выпадках яму на дапамогу хутка прылятала самка і хутка дзяліла здабычу паміж усімі сваімі птушанятамі.

На пачатку траўня Аляксандр Мініч заўважыў, што на адных відэазапісах з гэтага гнязда ў самца хвост поўнасцю шэры, а на другіх – шэры з чорнымі рыскамі. Так як адзін і той жа самец не мог час ад часу змяняць афарбоўку свайго хваста, стала зразумела, што птушка з паласатым хвастом – птушка першага года, якая таксама прымаў ўдзел у гнездаванні, напэўна, з самага яго пачатку. Пры больш пільным праглядзе запісаных камерай момантаў сямейнага жыцця сокалаў аказалася, што абодва самца не толькі прымалі ўдзел у наседжванні кладкі, але і прыносілі корм у гняздо, і нават спрараліся з самкай. А гэта ўжо вельмі рэдкі для драпежных птушак выпадак паліандрыі, калі з самкай адначасова гняздуе больш аднаго самца. Толькі дзякуючы пільнасці Аляксандра і магчымасці пастаянна назіраць за жыццём сокалаў зблізку дзякуючы вэб-камеры, атрымалася зрабіць гэтае адкрыццё. Два гэтыя самцы час ад часу канфліктавалі між сабой, зрэдку ладзячы "бойкі без




**Самец перадае самцы палёўку, прываблiваючы да гнязда. Яек яшчэ няма**




**Самка ўвечары з яйкамі**

- **1-ае яйка – 17 красавіка - 10:56**
- **2-ое яйка – 19 красавіка – 11:25**
- **3-ае яйка – 21 красавіка – 9.30**
- **4-ае яйка – 23 красавіка – 10:30**
- **5-ае яйка – 25 красавіка 11:15**




**Перадача прынесенай самцом здабычы самцы з птушанятамі**




**Назіраючы за бацькам. Бачны ўсе 5 птушанят**



**Януш Сяліцкі, віцэ-прэзідэнт таварыства "Sókol" (Польшча):**

"Дзякуючы нашай дапамозе і аб'яднанню сіл, праз магчымасць непасрэдна заходзіць на сайт birdwatch.by з нашай старонкі, прысвечанай назіранням за сокаламі-падарожнікамі, акцыя нашых брэсцкіх калег атрымала шырокую вядомасць. Спадзяемся, што гэта будзе пачаткам нашага супрацоўніцтва. На чарзе - рэінтрадукцыя і ўзнаўленне дравеснай папуляцыі сокала-падарожніка ў Беларусі."




Цяжкі бацькоўскі абавязак - пракарміць 6 ротаў




Трэніроўкі, трэніроўкі і яшчэ раз трэніроўкі

правілаў" непасрэдна ў гнездавой нішы.

Прыкладна праз месяц пасля вылуплення маладыя пустальжаняты пачалі пакідаць сваё гняздо, і 20-21 чэрвеня яны ўсе паспяхова вылецелі з яго, перабраўшыся на дах шматпавярховіка.

Асноўнай мэтай он-лайн трансляцыі з гнязда ў Брэсце была папулярызацыя назіранняў за птушкамі, у прыватнасці, за сокалам-пустальгой – Птушкай 2010 года. Дзякуючы сучасным тэхналогіям, гэта можна было рабіць фактычна 24 гадзіны на суткі, не адыходзячы ад свайго камп'ютара. Наколькі атрымалася гэтага дасягнуць, лепей скажуць лічбы.

Трансляцыя з брэсцкага гнязда пустальгі працягвалася 75 дзён, праўда, былі дні, калі па тэхнічных прычынах камера не працавала, але, дзякуючы эфектыўнай супрацы сябра АПБ з Брэста Аляксандра Мініча, супрацоўнікаў брэсцкага інтэрнэт-правайдэра "Элнет" і братоў Януша і Славаміра Сяліцкіх з польскага таварыства "Сокал", праблемы хутка вырашаліся. А за гэты час сайт наведала 21.312 чалавек, якія заходзілі паглядзець на нашых птушак 70 863 разы. Пры гэтым, наведвальнікі былі амаль са 100 краін свету, прасцей, напэўна, назваць краіны, з якіх не заходзілі. Па актыўнасці і цікавасці да праекту першую прыступку займае Польшча - 37 842 наведванняў, што было ў два разы больш за колькасць наведванняў з Беларусі (18 184). Гэта можна патлумачыць не толькі розніцай у колькасці насельніцтва, але і тым, што спасылка на камеру з брэсцкай пустальгой была размешчана на папулярным сервісе таварыства "Сокал" з он-лайн трансляцыяй з двух гнёздаў польскіх вандроўных сокалаў. Мяжу ў 1000 наведванняў перайшлі Расія, ЗША, Украіна, Вялікабрытанія і Германія. Рэкорд наведвальнасці быў пастаўлены 17 траўня, калі на сайт зайшло 1 239 чалавек, пры гэтым большасць з іх была з Беларусі: менавіта ў гэты дзень навіна пра магчымасць он-лайн назіранняў пустэльг з'явілася на папулярным беларускім рэсурсе TUT.by.

Дзякуючы шматлікім артыкулам у газетах і на сайтах, сюжэтам па тэлебачанні, а таксама адмысловым банэрам з рэкламай праекту, атрымалася прыцягнуць так многа наведвальнікаў на сайт www.birdwatch.by. Тут яны не толькі змаглі з цікавасцю паназіраць за жыццём сокалаў, але, мы спадзяемся, больш даведацца і пра іншых нашых птушак, дзякуючы навінам, фотаздымкам і палявым назіранням, і зразумелі, што птушкі патрабуюць увагі і беражлівых адносін да сябе.

## Гняздо ў Гродна

На працягу апошніх некалькіх год сокалы-пустэльгі гняздуюць у самым цэнтры Гродна на касцёле былога ордэна Бернандынцаў. Сёлета ўпершыню яны былі адзначаны каля касцёла 20 сакавіка. І ўжо праз некалькі дзён у адтуліне за статуяй св. Алены, дзе яны звычайна ладзяць сваё гняздо, была ўсталявана камера, і пачаліся працы па падлучэнню яе да сеціва. Усё гэта не атрымалася б зрабіць без ласкавай згоды ксяндза-прабошча касцёла а. Антонія Ханько і непасрэднага

**Ксёндз о. Евгений Борисюк , настоятель прихода «Христа Спасителя и Всех Святых» в г. Гродно**



**Благодаря трансляции я имел возможность впервые узнать о существовании такого интересного вида из семейства соколиных, как пустельга, и был весьма удивлен, что птицы как и люди, живут парами, воспитывая свое потомство вместе. Наблюдая за целым периодом жизни этих птиц от момента откладки яиц до самого первого самостоятельного полета птенцов, я успел привязаться к ним, и мне было немного грустно, когда семья покинула гнездо. Но все же надеюсь в следующем сезоне на их возвращение. Символом того, что семья редкой птицы поселилась именно за статуей св. Елены может послужить тот факт, что пустельга как и св. Елена (посвятившая свою жизнь поискам Святого Креста), также Божее создание, и ищет опеки и понимания от нас, людей, пытаясь как бы тем самым обратить на себя внимание. Желаю Вам всем удачи и Божьей опеки: и для нас, людей, и для наших «братьев меньших».**



Пад аховай св. Алены. Фота Дз. Вінчэўскага




**Пасля школы дзеці з задавальненнем сочаць за жыццём сокалаў. Фота Паўлюка Быкоўскага**

ўдзела ксяндза а. Яўгенія Барысюка, які не толькі дапамог з доступам да інтэрнэту, але і рабіў запісы з камеры на працягу першага месяца гнездавання птушак на свой камп'ютар.

У той час як мы ламалі галавы над тэхнічнымі праблемамі, звязанымі з трансляцыяй, што ўзнікалі адна за адной, птушкі пасля сваіх шлюбных гульняў прыступілі да адкладкі яек. Першае, другое, трэцяе... Такое ўражанне, што самка не збіраецца спыняцца, аднак усё ж шостае яйка стала апошнім. Надышоў новы этап ва ўзаемаадносінах птушак: самка большасць часу, уладкаваўшыся на яйках, спіць, а самец старанна раз за разам прыносіць ёй у ежу дробных грызуноў. Часам самец спрабуе сябе ў ролі грэлкі, седзячы на яйках, пакуль самка есць недзе недалёка.

Вясна ўжо была ў самай моцы, калі на свет з'явілася першае пустальжаня. Слабым белым камочкам яно ляжала сярод яек




**У рэкордны па наведвальнасці дзень, усе маглі бачыць на яйках другога самца з "паласатым" хвастом.**

пад самкай і чакала сваіх братоў і сёстраў. Ужо праз тыдзень пад самкай былі ўсе шэсць птушанят. На ўсіх іх хапала адной палёўкі, старанна падзеленай мамай на маленькія кавалачкі. Спачатку харчаванне займала больш 10 хвілін, але ўжо праз дватры тыдні птушаняты шпарка вырывалі здабычу і ў бацькоў, і ў братоў-сясцёр. Пачаўся сапраўдны канвеер: самка і самец тым і займаліся, што па чарзе прыносілі сваім галодным дзецям палёвак і мышэй, а часам нават яшчарак ці вераб'я.

Гарадзенскія пустэльгі сталі сапраўднымі ньюсмэйкерамі: ці АНТ здымае іх гняздо, ці па СТБ распавядаюць пра з'яўленне птушанят, ці нават цэлая перадача выйдзе пра іх жыццё ў "Аб'ектыве натураліста" па абласным тэлебачанні. Аднак зорнай гадзінай гэтай птушынай сям'і стаў іх штодзённы выхад на шырокі экран цэнтральнай плошчы горада, дзякуючы мясцоваму тэлеканалу "Гродна-Плюс". Каб неяк кампенсаваць адсутнасць он-лайн трансляцый з гнязда, мы стараліся штодзень выкладваць на сайце фільмікі з самымі цікавымі падзеямі з жыцця сокалаў, запісаныя з дапамогай камеры.

А каб птушаняты не забываліся пра сваё зоркавае паходжанне, перад вылетам з гнязда яны атрымалі асабістыя кольцы, як кажуць, на доўгую памяць аб радзіме.

**Цікавыя каментары, шмат скрыншотаў з абодвух гнёздаў і фільмікі можна паглядзець тут: www.birdwatch.by/pustalga_brest**

# Каментары з сайта

**Sterna 20.04.2010**
гэта неверагодна, прыемна прыйсці з заняткаў і назіраць за птушкамі он-лайн,.. але ж усё магчыма!!
далучаюся да віншаванняў))

**Luca Ravizza 21.04.2010**
Bravi, complimenti, bel video, continuate cosi. Ciao a tutti Luca Ravizza Lodi, Lombardia - Italy

**Aleu 22.04.2010**
У нас уже 3 яйца!!!!!!!

**Biot 23.04.2010**
Эту ночь пустельга проводит сидя на кладке. Она дремлет, клюет носом. И даже видно ее дыхание! Класс!

**Berkut 28.04.2010**
11.25 в гнезде никого нет - яйца закаляются:))) Не зря эта пара на зимовку остается. Птенцов готовят к зиме уже в яйцах:)))

**Ігар 01.05.2010**
Дадаў ваш банэр на сваім блозе. Самому цікава, няхай і наведвальнікі палюбуюцца. Дзякуй вам за такую магчымасць. Адна такая трансляцыя, на мой погляд, замяняе кілагадзіны балбатні аб каштоўнасцях нашага жыцця. Поспехаў!

**Feather 01.05.2010**
Но я вам скажу, что для пустельги лезть в чужое гнездо - это наглость.

**Sirena 01.05.2010**
Чужую самку вроде как наш самец за собой привел. Популярный такой мущщина:)

**svetlana vranova 29.05.2010**
большой сделал несколько шагов и даже крылушки пробовал. :-)

**Berkut 01.06.2010**
Появилось время-наведал камеру в Бресте:) 14.38 - птенцы в гнезде сами. 4 спят, а 1 чистит у себя пуховые перья. Один во сне вытянул лапку назад прямо в голову другому:) А ему хоть бы что:)

**Sirena 24.06.2010**
А я бы поставила 10! если по 10-балльной:) Молодцы! Жалко, что все так быстро закончилось... Ну, в смысле трансляции:) Пусто так перед камерой, но все равно заходишь по привычке, а вдруг залетят наведать гнездо... Кто-нибудь видел: прилетали сокалы в эти дни?




**Графік наведванняў сайта BirdWatch.by у красавіку-чэрвені 2010 г.**

# «Сцэна», на якой галоўныя ролі выконваюць птушкі



**Афрыка… Дзе тая недасяжная мясціна?.. А глянем на самы верх карты, дзе знаходзіцца невядомая нам тундра, якая і ўвогуле здаецца нейкім канцом свету. А паміж гэтым недасяжным і невядомым – Тураўскае балонне, што раскінулася сярод роднага Палесся на шляху міграцыі шматлікіх птушак.**

**Арцём Халандач | Фото автора**

Куточак роднай прыроды, які пяшчотна абмывае прыпяцкая вада, дзе ўсё знаёмае: гэтыя вербы на другім баку ракі, сама вада і такі знаёмы веснавы разліў. Чаму менавіта сюды і такой колькасцю ляцяць птушкі? Няўжо падобнага на гэтае балонне больш нідзе няма? Гэтае месца сваёй таямніцай з вялікай сілай вабіла ў самы цікавы куточак роднага Палесся… Менавіта такімі, поўнымі невядомага і цікавага, былі мае думкі перад вандроўкай на станцыю кальцавання.

## «Ураджайнае» Палессе

…Засталося праехаць мост, і ўжо зусім хутка буду на месцы. Вось ужо за Прыпяццю. Менавіта тут і пачынаецца сапраўдная краіна палешукоў з багацейшай культурнай спадчынай. Гэтая ўнікальная сувязь чалавека і прыроды ўтварыла сапраўднага палешука. Дзіўная Прыпяць са сваімі заліўнымі лугамі, лясамі, дубровамі, балотамі стала асновай асаблівай паляшуцкай культуры, што вельмі яскрава адлюстравалася ў абрадах, звязаных з шанаваннем непаўторнай прыроднай прыгажосці. І калі збіраешся ў такое падарожжа, хочацца быць як мага бліжэй да гэтых мілых сэрцу мясцін, каб цалкам адчуць дух Палесся.

Як і год таму, у сваё першае падарожжа, я зноў апынуўся сярод гасцінных людзей, аб'яднаных велізарным энтузіязмам і адзінай ідэяй, хоць і займаюцца яны рознымі напрамкамі арніталогіі.

Моцная салодкая гарбата спрыяла вячэрняй гутарцы, якая ператварылася ў роспыты аб птушках, станцыі, планах на тыдзень і пра жыццё ўвогуле. Галоўнай жа мэтай майго падарожжа на станцыю была дапамога ў працы, а потым – фотаздымкі.

Падчас маёй вандроўкі на станцыю жыццё на ёй адначасова здалося і даволі спакойным, і часам экстрэмальным. Праца навукоўцаў працягвалася ўвесь дзень, а ў некаторыя дні – усю ноч. Па гэтай прычыне, тут не абысціся без асаблівага распарадку. Кожны дзень пачынаўся а сёмай гадзіне. Кубачак кавы добра спрыяў працы тым, хто паспяваў устаць раней. У гэты ж час адбывалася і першая праверка лавушак, у якіх за ноч ужо маглі быць першыя птушкі. Лавушкі ставяцца па краях астравоў побач з вадою ў «клёвых» месцах. Вільготны бруд, маладая трава – гэта тое самае месца, дзе кормяцца кулікі. Праверкі лавушак вядуцца праз кожныя дзве гадзіны да самага вечара. Спачатку здаецца, што пасля некалькіх дзён праверак гэта справа можа стаць нецікавай, але гэта зусім не так. Зразумела, бываюць дні «неўраджайныя» на птушак, што залежыць ад

надвор'я, тэрмінаў прылёту. Але Тураўскае балонне – гэта ўнікальная мясціна, якая дорыць арнітолагам небывалыя «ўраджаі» на птушак.

## Майстэрня мастака

Самае цікавае, калі трапляюць птушкі з кольцамі. Менавіта ў такія моманты бачны вынікі штодзённай працы навукоўцаў, бо птушка з кольцам – гэта носьбіт каштоўнай інфармацыі, заўсёды цікавай і карыснай для навукі. Надзвычай цікава, калі ў рукі арнітолагам трапляе птушка з кольцам нашага цэнтра кальцавання. Але ёсць і шмат выпадкаў адлову птушак з кольцамі з-за мяжы. Гэта становіцца цэлым святам са сваімі рытуаламі. А якія пачуцці абуджаюцца, калі трымаеш у руках птушку з такім кольцам!

Кожны раз пасля праверак птушкі трапляюць у галоўнае месца станцыі – пункт кальцавання. Ён нагадвае майстэрню мастака са сваім асаблівым антуражам: вялікая колькасць разнастайных прылад, кольцы, якія чакаюць сваіх новых гаспадароў, мноства цікавых скрыняў, стосы папер з навуковымі запісамі, каробкі, у якіх начуюць птушкі, нават свой асаблівы запах. Такой «парфумай» прырода надзяліла баталёнаў, якія з'яўляюцца самымі частымі гасцямі станцыі.

На гэты год для іх кальцавання былі атрыманы і спецыяльныя каляровыя кольцы. А сам працэс нагадвае сапраўдны канвеер. Непасрэдна кальцоўшчыкі, часцей за ўсё Павел і Наталля, абмерваюць птушку, узважваюць яе, робячы апісанне з запісамі ў адпаведны сшытак. У птушак яшчэ трэба ўзяць кроў і зрабіць фотаздымак: такія патрабаванні.

Бываюць дні, калі станцыю наведвае шмат турыстаў – аматараў птушак (birdwatchers), і пункт кальцавання ператвараецца ў сапраўдную гасцёўню. Аматары птушак з усёй Еўропы з вялікай цікавасцю назіраюць за працэсам кальцавання.



**У пік міграцыі на лузе спыняецца некалькі тысяч баталёнаў**



**Лавушка ў дзеянні**



**Кулік-марадунка з беларускім кальцом**

Кальцаванне - сямейная справа. На здымку Наталля Карліонава і Павел Пінчук

## «Востраў дзесяці загінуўшых баталёнаў»

Само Тураўскае балонне – гэта мноства птушыных астравоў са сваёй асаблівай гісторыяй. Для птушак яны адыгрываюць значную ролю ў жыцці: для адных – гэта месца пабудовы гнёздаў і першых крокаў, для іншых – месца, дзе пасля доўгіх і цяжкіх пералётаў можна спыніцца для адпачынку і знайсці сабе корм. Гэта ўсё не можа не цікавіць навукоўцаў, таму ўдзень праца пераносіцца на астравы «Паўмесяц», «Падвоеныя кладкі», «Востраў дзесяці загінуўшых баталёнаў».

На астравах знаходзіцца вельмі вялікая колькасць птушыных гнёздаў. Да кожнага з іх асаблівы падыход. Побач з кожным ставяцца спецыяльныя калочкі з асабістым нумарам, што дапамагае прасачыць развіццё падзей у перыяд гнездавання.

Вялікая шчыльнасць гнёздаў утварае спрыяльныя ўмовы для палявання драпежнікаў. За час знаходжання на станцыі не раз бачылі разбураныя гнёзды кулікоў, раскіданае пер'е кулікоў-случкоў ці кнігавак, а побач з імі – згубленае пер'е пугача ды іншых драпежнікаў.

Асабліва цікава, калі акрамя звычайных відаў птушак на астравах будуюць свае гнёзды рэдкія віды: крыўкі, вялікія зуйкі, марадункі.

Падчас працы на астравах з Наталляй і Яўгенам мы знайшлі гняздо крыўкоў. Аказалася, што ўжо другі год птушкі гняздуюцца ў адным і тым жа месцы. У мінулым годзе атрымалася акальцаваць адну з птушак, і, неверагодна, але тая самая птушка, трошкі дабудаваўшы старое



Дзмітрый Жураўлёў бярэ кроў для генетычнага аналізу

гняздо, адклала ў ім яйкі. Для мяне гэта быў сапраўды фантастычны выпадак.

Зразумела, што такія гнёзды маюць асаблівую значнасць для навукі, таму патрабуюць больш дакладнага даследавання, напрыклад, зняць памеры з гнязда і нават кожнага яйка.

Даволі цікава назіраць за тым, што адбываецца вакол самого гнязда. Добры настрой, цікавыя гутаркі – усяго гэтага на станцыі кальцавання не менш, чым птушак на балонні. Дарэчы падчас аднаго з вячэрніх улікаў птушак была адзначана самая вялікая колькасць баталёнаў за ўсе гады існавання станцыі. У гэты вечар амаль усе астравы на балонні былі занятыя птушкамі. Сінхронныя палёты неверагоднай колькасці чародак баталёнаў нагадвалі адзіную жывую істоту.

## Начная «сістэма»

Увечары на станцыі кальцуюць апошнюю партыю кулікоў з лавушак. На гэтым навуковая праца спыняецца. За смачнай вячэрай абмяркоўваюць планы на наступны дзень. Але так спакойна толькі тады, калі не плануюцца начныя адловы птушак сеткамі. У адзін з вечароў арнітолагі вырашылі паставіць сеткі на востраве. Гэта быў першы начны адлоў сеткамі ў гэтым годзе, таму я з вялікай цікавасцю вырашыў прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве. Спецыяльныя жэрдкі, сеткі, магнітафон і акумулятар да яго – гэта ўсё мы пагрузілі ў лодку і ўзялі напрамак на загадзя выбраны востраў.

Усталёўка сетак адбываецца амаль уначы. Каб не растаптаць гнёзды птушак, увечары мы спецыяльна наведалі месца, дзе будуць пастаўлены сеткі. З першага позірку сама канструкцыя не выглядае нечым складаным, але і тут ёсць свае асаблівасці: каб у сеткі трапляла большая колькасць птушак, навукоўцы карыстаюцца «сістэмай», якая прайграе запісы галасоў птушак. Сярод начной цішы балоння запісы з галасамі кулікоў чуваць далёка.

Самым цікавым з'яўляюцца праверкі. Першая з іх робіцца праз дзве гадзіны. Па начному балонню Павел, Яўген і я едзем на першую праверку. Шлях да вострава нам асвятляе месяц. Нібы пражэктар, ён робіць роўную дарожку па ўскалыханай ветрам прыпяцкай вадзе. Арыенцір – тры асобныя таполі і бакін. Таксама са мною два праваднікі, якія добра ведаюць усе дарогі балоння. Вакол пакрыкваюць кнігаўкі, зусім блізка ад нас трывожна падалі голас случкі. У гэты момант Тураўскае балонне здалося сапраўды казачным месцам са сваёй асаблівай невядомасцю.

Праз цемру пакрысе мы набліжаліся да «сістэмы». Ужо была бачна сетка, а ў ёй такія жаданыя для мяне першыя птушкі. Іх было небагата ў параўнанні з рэкордам, калі аднойчы ў сетку трапіла каля ста пяцідзесяці птушак. Гэта аднычасова і свята, і вялікая праца... Цікава было папрактыкавацца ў выблытванні птушак. Гэты занятак быў для мяне даволі складаным. З усіх разоў, што я ездзіў на начныя праверкі сетак, мне не ўдалося выблытаць ніводнай птушкі. Цяжэй з усіх даваліся крычкі, якія выявілася, як птушкі з характарам...

## Свята птушак

...Маё знаходжанне на станцыі супала са святам птушак. Для горада гэта не проста комплекс нейкіх мерапрыемстваў, а сапраўднае свята. Таксама атрымалася пабываць на канферэнцыі, прысвечанай Тураўскаму балонню, паслухаць даклады Паўла Пінчука, Наталлі Карліонавай, Віктара Фенчука, удалося нават трошкі паспрачацца за птушак і родную прыроду.



**Кулік-крывок другі год запар займае адно і тое ж гняздо**

Самае галоўнае ў начных адловах - прывабіць птушак пры дапамозе "сістэмы"

Прыемна было пачуць пра першыя станоўчыя вынікі праведзеных вырубак хмызняку на балонні. Але пакуль нам яшчэ даволі цяжка ўбачыць і зразумець, што прырода дадзена нам толькі адзін раз. І «ўпрыгожваць» такі найпрыгажэйшы алмаз, якім з'яўляецца Тураўскае балонне, зусім не трэба. Зразумеўшы душою гэты каштоўны куточак роднай прыроды, мы зробім намнога больш для яе, а таму і для сябе.

...За той час, што я быў на станцыі кальцавання, Тураўскае балонне здалося мне сапраўдным запаведным месцам са сваёй невядомай, непаўторнай прыроднай прыгажосцю, яскравай, як сонечны прамень, без адзення, адкрытай, не схаванай ад нашага погляду, сапраўднай сцэнай жыцця прыроды, на якой галоўная роля аддадзена птушкам...



Кулік-перавозчык *(Actitis hypoleucos)*

# Незнаёмы Кіпр

**Усе мы звыкліся думаць, што Кіпр – гэта выспа-мара ў сэрцы Міжземнага мора. Райскі куточак, дзе заўсёды свеціць сонца, дзе можна адпачыць у цяні пальм, дзе мора сіняе-сіняе, а вада спакойная, чыстая і заўсёды цёплая. Але ёсць у Кіпра шэраг праблем, пра адну з якіх урад краіны не любіць гаварыць адкрыта: птушкі...**

**Юрка Бакур | Фота аўтара**


Кеклік - асноўны аб'ект палявання

Мільёны нашых птушак мігрыруюць праз выспу вясною і ўвосень, але, на жаль, многія з іх застаюцца тут у выглядзе разнастайных дарагіх дэлікатэсаў. Ужыванне ў ежу птушак усіх памераў мясцовым насельніцтвам, а таксама гатаванне з іх дарагіх страваў у мясцовых рэстаранах сталася сапраўднай трагедыяй для мігрантаў. Бо здабыць птушак сучаснымі метадамі не так і складана. Улады заплюшчваюць на гэта вочы. І, хаця афіцыйна такое дзікунства лічыцца браканьерствам, ніхто не збіраецца вырашаць гэтую праблему. Многія прадстаўнікі ўладаў і самі частуюцца птушыным мясам, а на пытанне пра знішчэнне птушак, у іх ёсць тыповы, але дурны адказ: "Хтосьці ловіць рыбу, а мы птушак."

Нягледзячы на такую абыякавасць ці нават зацікаўленасць у знішчэнні еўрапейскіх птушак сярод кіпрыётаў, знайшліся людзі з іншых краінаў, якія спрабуюць рознымі шляхамі спыніць варварскія звычаі. І не толькі на Кіпры: такія ж праблемы ёсць у Еўропе на іншай выспе Міжземнага мора – Мальце, а таксама ў Альпах Паўночнай Італіі. Кожны год дзесяткі валанцёраў розных экалагічных арганізацый накіроўваюцца ў гэтыя "гарачыя" кропкі, каб сваімі высілкамі зменшыць маштабы праблемы.

Адной з такіх актывістак з'яўляецца 77-гадовая швейцарка Эд'іт Люсьлі Флёра. 17 год таму яна, адпачываючы на Кіпры, нечакана для сябе ўбачыла прыём птушак у мясцовы рэстаран. Вялікі мех быў паўнютка набіты вераб'інымі птушкамі. З тых часоў Эд'іт кожную вясну і восень прыязджае ў гэтую мясцовасць разам з валанцёрамі, каб самастойна знішчаць розныя пасткі на птушак у гэтым раёне. Нягледзячы на свае 77 год, жанчына цудоўна сябе адчувае, хутка прабіраецца праз хмызнякі і горы, мае светлы розум і ахвяруе свой час і лёс дзеля карыснай справы, за што ёй вялікая пашана.

Менавіта з гэтай жанчынай я зкантактаваўся праз інтэрнэт, і ўжо праз два месяцы яна сустракала мяне са сваёю чароўнай усмешкай ў аэрапорце Ларнакі – сталіцы Кіпра.


Юрка Бакур

Па дарозе ў аэрапорт мне паведамілі, што мой лепшы сябр-арнітолаг памёр ад клешчавога энцэфаліту. Дурная і нечаканая смерць зламала мяне, і жаданне кудысьці ехаць прапала. І толькі немагчымасць абмяняць квіткі і роздум аб тым, што маё жыццё павінна працягвацца, дапамаглі мне ўсё ж выбраць шлях на самалёт.

Быць можа з-за майго сумнага настрою, Кіпр падаўся мне крыху самотным. У месцы, дзе мы працавалі, канешне не было дамоў і тэрыторыя была пакрыта хвойна-лісцевымі хмызнякамі.

***

Ужо паўгады як не было дажджу, таму ўся вясеньская раслліннасць здавалася пажоўклай і соннай. Тут не было гор, але некалькі камяністых узгоркаў надавалі пейзажу адметную прыгажосць. Камяністым было і ўсё ўзбярэжжа паўвыспы. Марская вада паступова стачыла каменне і вапняк, таму тутэйшыя

берагі ператварыліся ў нейкую вострую двухколерную паверхню з разнастайнымі кратэрамі. Асноўны колер - чорны, пакрыты зверху пясчанага колеру шапкамі, што надавала каменням нейкую антычную афарбоўку.

Крыху асвоіўшыся, я пайшоў знаёміцца з мясцовасцю. Мора было ў трохстах метрах ад вілы, у якую мы засяліліся. Вакол раслі нейкія экзатычныя расліны, сярод іх дзе-нідзе хаваліся вераб'і, а над зямлёю час ад часу шмыгалі нашыя вясковыя ластаўкі. Нейкая незнаёмая птушка харчавалася ўжо саспелай фігай на аднайменным дрэве...

Але ёсць у кіпрскіх птушак адна адметнасць: калі ты на іх наводзіш бінокль ці фотакамеру, яны адразу адлятаюць далёка ў хмызнякі, нават у выпадках, калі яны і сядзелі зусім не побач. Цікава, з чым бы гэта магло быць звязана? Ці не з няўтольнай прагай мясцовых паляўнічых страляць ва ўсё, што рухаецца?

Выйшаў на бераг мора. Сярод камянёў падаюць галасы жаўрукі-смецюхі. А мора, хоць і сіняе-сіняе, з празрыстаю вадою, але без ніякіх марскіх птушак. За месяц знаходжання там я не сустрэў амаль ніводнай марской птушкі! Толькі два разы здалёк бачыў чаек, а аднойчы з-пад камяністага берага выпырхнуў нейкі кулік, які, па прыкладу ўсіх тамтэйшых птушак, уляцеў далёка-далёка, таму і вызначыць яго не было магчымым.

***

І вось, пачаліся нашыя працоўныя, можна сказаць і баявыя, будні.

Першы выезд паказаў, што паляўнічых тут сапраўды шмат. Адусюль чуліся стрэлы. І страляюць яны не па кеклікам, на якіх яшчэ не адкрыта паляванне, а па шчурках-пчалаедках. Шчурка – гэта птушка з фантастычнай афарбоўкай. Чорная маска на вачах, жоўтая грудка, сіняе брушка, зялёныя крылы, салатавая спінка – здаецца, птушка ўвабрала ў сябе ўсе колеры вясёлкі, таму апраўдана завецца адной з самых прыгожых птушак Беларусі. У гэтым годзе на Кіпры ўпершыню афіцыйна дазволілі страляць шчурак - і паляўнічыя не прымусілі сябе чакаць... Справа ў тым, што шчуркам вельмі падабаюцца пчолы, і таму многія фермеры недалюбліваюць іх. Насамрэч, пчолы складаюць толькі нязначную частку рацыёну шчурак, бо птушкі харчуюцца і іншымі буйнымі насякомымі. А самае галоўнае, што шчуркі ў Кіпры сустракаюцца толькі падчас восеньскай міграцыі. Яны цягам месяца пралятаюць над выспай, і ўрон пчолам ад іх прысутнасьці тут мізэрны.

Я тут ужо узгадваў кеклікаў. Кеклік – гэта птушка падобная да шэрай курапаткі, жыве ў гарах і на ўзгорках. Тут на выспе іх штучна размнажаюць, а потым выпускаюць у прыроду з мэтай далейшага палявання на іх. І, нягледзячы



**Эд'іт Люсьлі Флёра**

на масавы адстрэл кеклікаў, іх папуляцыя павялічваецца, і від тут з'яўляецца самым шматлікім сярод больш-менш буйных птушак. Але сезон палявання на кеклікаў яшчэ не надышоў, таму паляўнічыя пакуль захапляюцца здабычай дробных шчурак ды іншых пічуг, тым часам натасківаючы сваіх сабак на кеклікаў.

***

Ноч. Ноччу тут зусім іншае жыццё. І асаблівасць нашай працы была ў тым, што мы мусілі працаваць кожную ноч, таму дзень наш быў пастаянна разбіты.

Калі апошнія турысты вяртаюцца дамоў, мы выязджаем ўжо на нашае "паляванне". Спыняем сваё аўто на ўзбочыне дарогі, выходзім з яго і слухаем. А гэтым часам з усіх бакоў даносяцца птушыныя галасы. Нажаль, яны не сапраўдныя. Птушак заманьваюць у пасткі адмысловыя аўдыёсістэмы. Збіраць іх – нашая асноўная задача. Разам з пераліваў вераб'іных спеваў да нас даносяцца электрычныя позывы перапёлкі. Але пакуль яшчэ ідзе сэзон палявання на іх (да 30-га верасня), мы не будзем іх чапаць.

Праязджаем далей. Зноў спыняем машыну, зноў чуем "птушыныя" спевы.

Першая аўдыёсістэма, якую мы знялі, складалася з аўтамабільнага акамулятара, аўтамагнітолы і адмысловай

**Кіпр ляжыць на зручным міграцыйным шляху многіх відаў птушак, таму іх адлоў здаўна стаў шкоднай традыцыяй. У апошнія дзесяцігоддзі лаўцы птушак выкарыстоўваюць тонкія сеткі і адмысловы клей, якім абшмароўваюць галінкі дрэваў.**

**Да 100 розных відаў птушак вядомыя, як аб'екты такога палявання, аднак найбольш пакутуюць ад паляўнічых дразды-спевуны Turdus philomelos і чорнагаловыя лескі Sylvia atricapilla. Пасля здабычы, іх прадаюць у мясцовыя рэстараны па коштах да 5 еўра за птушачку. З забітых дробных птушак гатуюць мясцовыя "дэлікатэсы" - г.зв. стравы ambelopoulia, якія шырока даступныя ў мясцовых рэстаранах і нават развозяцца "на дом" у некаторых вёсках. Такая страва з 4 птушачак каштавала ў 2008 годзе каля 50 еўра.**

**Каментуючы сумныя лічбы, Марцін Гэллікар (Martin Hellicar), прадстаўнік Birdlife Cyprus, сказаў: "Адлоў птушак вяртаецца як шырокамаштабная з'ява і непакоіць нас, і прычынай гэтаму ёсць тое ж, што і было заўсёды: вялікія грошы, якія зарабляюць на гэтым. І гэта будзе працягвацца так доўга, пакуль рэстаранам будзе дазволена парушаць закон". Афіцыйна забароненае прыгатаванне ambelopoulia насамрэч шырока распаўсюджана, бо, напрыклад, у 2008 годзе толькі 9 рэстаранаў атрымалі штрафы за прапанову гэтай стрвы кліентам.**

калонкі. Як паказаў час, такія сістэмы тут самыя папулярныя. А на хмызняку над такімі ўстаноўкамі "красуецца" мноства клеевых палачак. Яны раскіданы па кронах некалькіх суседніх аліўкавых дрэўцаў. Менавіта аліўкавыя дрэвы найбольш падабаюцца дробнам пічугам. Пакуль птушак на клеевых палачках няма, мы, не губляючы час, пачынаем здымаць іх. Усяго 33 палачкі: небагата. Часам бывае і па 200-300 штук. Мы іх робім непрыгоднымі, абціраючы аб сухую траву, потым ламаем і хаваем пад камень, а аўдыёсістэму забіраем з сабою і едзем у паліцыю. Часам паліцыя рабіла супольныя рэйды з Эд'іт у пошуках аўдыёсістэм, а ў гэтым годзе пасля ветлівай усмешкі і спачування ў паліцэйскіх следаваў тыповы выраз: "У нас уласная аперацыя."

Але праз ноч ім усё ж прыйшлося прыехаць, бо мы апынуліся ў складанай сітуацыі. Здымаючы аўдыёсістэмы ў нацыянальным парку Кава Грэка (а яны тут былі з вельмі доўгім кабелем - каля 100 метраў), мы пачулі, як нейкая машына спынілася ля дарогі. Так як паблізу ніякіх дамоў не было, мы адразу падумалі, што гэта па нашы душы. Падумалі і пайшлі здымаць іншую ўстаноўку. Калі здымалі трэцюю, на дарозе была ўжо не адна, а тры машыны. Мы зразумелі, што справы нашыя не самыя лепшыя, таму сталі прабірацца праз лес да нашай машыны. Але ж і браканьеры – не дурні. Яны знайшлі нашае аўто і чакалі нас каля яго. Мы ўбачылі іх і праз хвіліну роздумаў усё ж патэлефанавалі ў паліцыю. А там: « Прабачце: у нас аперацыя!» Мы запярэчылі: «Нам пагражае небяспека, а вы кажаце, што не можаце прыехаць?»

Пасля гэтых слоў паліцыя прыехала. А яшчэ праз хвіліну да нас пад'ехала цэлая "атара" браканьераў. Нягледзячы на паліцэйскіх, яны груба з намі размаўлялі, але нічога зрабіць не маглі: іх прыстасаванні былі ўжо ў паліцэйскай машыне. У нашай машыны браканьеры паспелі спусціць ўсе колы, таму з паліцэйскага ўчастку нам прыйшлося дабірацца да дому на таксі, а ўвесь наступны дзень шукаць насос, каб напампаваць колы.

Гэта, на жаль, быў не апошні канфлікт з браканьерамі. Аднойчы хтосьці адкусіў ніпель у коле, калі наша машына стаяла перад домам. Усё гэта, канешне, было не вельмі прыемна, часам нават страшнавата. Ты ў чужой краіне, не ведаеш норавы мясцовага насельніцтва. Але ўсе мы пад Богам ходзім! Мора, што пяшчотна прымала ў свае сінія павольныя воды, супакойвала мае думкі, таму амаль увесь вольны час я бавіў на беразе.

***

Выходжу да месца з дзіўнай назвай Cyclop Cave (Пячора Цыклопа). Тут перад вачыма адкрываецца бухта, на яе дальнім беразе, на пляжы, гуляюць дзеткі. Далей ад берага знайшлі прытулак некалькі адзінокіх яхтаў. У высокім абрывістым беразе знаходзіцца невялічкі грот, можа быць, яго і празвалі пячорай цыклопа. Па камянях сыходжу да вады, назіраю за тым, як вада з празрыстай ператвараецца ў зялёную, а затым у блакітную. Падымаюся па скалістым схіне на ўзгорак. Ніводнай чайкі, ніводнай марской птушкі! Толькі шчуркі-пчалаедкі сумна крумкочуць высока ў небе...

Але час на адпачынак скончыўся. Некалькі гадзінак вечаровага сну - зноў у бой. Паўсюль, дзе ёсць хмызняк (а ён ёсць тут усюды, дзе няма дамоў), можна ўбачыць адмысловыя прыстасаванні для лоўлі птушак. На самых густых адзінкавых кустах прымацаваны розныя жэрдачкі-дошкі, лесвіцы, каб зручней і вышэй можна было павесіць клейкія палачкі. Многія з такіх прыстасаванняў ужо не выкарыстоўваліся, але ўсе яны паказвалі маштабы браканьерства. Гэта было страшна... Тым больш выкарыстоўваюць браканьеры ўсё больш сучасныя прыстасаванні – ад груваcтkіх магнітол і аўтаакамулятараў да маленькіх mp3-плэераў з мінікалонкамі. Часам яны выстаўляюць гэтыя ўстаноўкі ў садах. Калі сады не агароджаны, мы на свой страх прабіраліся ў іх і нішчылі сістэмы, але часта сады мелі агароджы – таму ўжо без паліцыі ніяк не абысціся, а паліцыя не хоча з гэтым звязвацца, хаця Эд'іт пастаянна кантактавала з паліцэйскімі, як на мясцовым узроўні, так і на самым вышэйшым. Дарэчы, менавіта на



**Самка чарнагаловай лескі... Падлічана, што за восень браканьеры ловяць больш за паўмільёна нашых птушак, якія мігрыруюць праз Кіпр**

**Сёлета на Кіпры адзначана найгоршая сітуацыя з адловам і наступным забойствам птушак за апошнія гады.**

**У параўнанні з тым самым часам у 2009 годзе, сёлета да канца верасня, паводле дадзеных, сабраных прадстаўнікамі BirdLife, колькасць сетак для адлову птушак павялічылася на 140%, а выкарыстанне клею, якім абшмароўваюцца галінкі дрэваў і кустоўя - нават на 265%! Трэба дадаць, што колькасць знішчаных на Кіпры рознымі спосабамі мігрыруючых птушак была найбольшай за пяць гадоў менавіта ў 2009 годзе, калі толькі ўвосень было забіта больш чым паўмільёна еўрапейскіх вераб'іных птушак. "Нарыхтоўшчыкі" птушак дзейнічаюць амаль адкрыта, бо невялікія штрафы, якія могуць прысудзіць за такую дзейнасць мясцовыя суды, застаюцца неэфектыўным стрымліваючым сродкам. Рэгіянальныя супольнасці ў сваёй большасці падтрымліваюць гэтыя знішчаючыя прыроду традыцыі, якія маюць даволі старажытныя карані.**



На 700 000 жыхароў прыходзіцца 150 000 паляўнічых, прычым з-за адсутнасці буйных жывёлаў яны пуляюць ва ўсё, што рухаецца... Праўда, і сярод іх ёсць адэкватныя людзі

вышэйшым узроўні зацікавіліся праблемай і паабяцалі з'ездзіць у самы небяспечны ўчастак - ля старой птушкафабрыкі. Там з аднаго месца можна пачуць дзесяткі аўдыёсістэм, таму без дапамогі нам не абысціся.

Ёсць на Кіпры як мінімум яшчэ адна арганізацыя, якая павінна вырашаць гэтую праблему – фонд GAME FUND, які выкарыстоўвае спецыяльныя падаткі паляўнічых: ён мусіць займацца развядзеннем паляўнічых відаў і аховай усіх іншых. Але і там нам толькі абяцалі, што дапамогуць.

Таму нам прыходзіцца зноў рызыкаваць. Яшчэ раз у нас былі праблемы з браканьерамі. Тады да нашай машыны прыехалі спачатку гаспадары вельмі гучнай аўдыёсыстэмы (яе гук разносіўся на дзясяткі кіламетраў навокал). Потым ім на падмогу пад'ехалі яшчэ тры машыны, і ўсе разам яны пачалі рыскаць навакол, шукаючы нас. Прыйшлося яшчэ раз выклікаць паліцыю.

Узгадваецца і шмат іншых выпадкаў з нашага начнога жыцця. Аднойчы ля багатай вілы выставілі лавушкі для перапёлкі. Гэта ўжо было нелегальна, таму мы вырашылі забраць рэпрадуктары. Імі аказаліся калонкі з доўгімі правадамі, якія на метраў сто цягнуліся ад будынкаў. Адрэзаўшы адну калонку, мы пачулі яшчэ адну, бліжэй да дому. Толькі дайшлі да яе, як у метрах дваццаці раздаўся аглушальны сабачы брэх. На шчасце, сабакі былі ў вальеры, але рабілі столькі шуму, што не толькі гаспадар мог прачнуцца, але і ўсё навокал. Мы, разгубіўшыся, усё ж перарэзалі провад і хутка сышлі. Дзякуй Богу, на гэты раз пагоні не было...

Вы не ўяўляеце сабе, як прыемна чуць цішыню пасля таго, як выключыш крыклівы рэпрадуктар. Гэта цішыня жывога лесу!

А ціхіх участкаў з кожным днём станавілася ўсё болей і болей. Часам, канешне, браканьеры выстаўлялі свае пасткі на тых самых месцах, дзе мы ўжо іх знялі, але нашая ўпартасць часта перамагала.

***

Паралельна з працай я імкнуўся як мага больш пазнаць жыццё Кіпра, але гэта было складана, так як з кіпрыётамі мы фактычна не працавалі. На выспе багата рускіх турыстаў і не толькі турыстаў. Тут часта можна сустрэць рускія надпісы, а ў многіх крамах з прадаўцамі можна паразмаўляць па-руску.

На Кіпры стырно аўтамабіля знаходзіцца з правага боку, таму складана было спачатку ехаць на машыне, а потым па вяртанні дадому складана было прывучацца назад да правабаковага руху. Дарогі там, канешне, цудоўныя. І здзівіла мяне тое, што амаль на кожным скрыжаванні знаходзяцца кальцавыя, таму светлафораў у іх досыць мала. Ніколі не стаяў у аўтамабільным заторы, хаця і рух там не такі вялікі, як у нас.

Тут распаўсюджана арэнда аўтамабіляў, матацыклаў, скутэраў, квадрацыклаў. Гэта досыць прыбыткова, бо турысты не могуць прыехаць на выспу на сваіх аўтамабілях.

Культурнай і гістарычнай спадчыны я, шчыра кажучы, не ўбачыў. Па легендах, у тутэйшых водах нарадзілася Афрадыта, чым кіпрыёты вельмі ганарацца. Але афрадытак тут сапраўды вельмі багата. Тутэйшыя дзяўчаты вельмі прыгожыя, са сваёй міжземнаморскай разынкай.



Самец чарнагаловай лескі



Сокал-пустальга таксама прыклееўся да клейкай палачкі



Пячураўка, вагай ня больш за 5 г., прыклеілася да палачкі. Яе чакае хуткая смерць у дарагім дэлікатэсе (турысты гатовыя плаціць па 70 еўра за страву з 10-ці птушак)

А самі кіпрыёты – ветлівыя людзі, заўсёды можна бачыць шчырыя ўсмешкі, жадаючыя дапамагчы. Дзіўна, што нашаму народу да гэтага яшчэ крочыць і крочыць, хаця, падаецца, так проста падарыць усмешку прадаўцу ў краме ці бабульцы на ўслончыку перад пад'ездам. Мы чамусьці хаваем свой унутраны свет, сваю дабрыню ад навакольных. Але, быць можа, калі б кожны беларус меў магчымасць вандраваць па свеце, ён бы таксама асэнсаваў значнасць дабрыні і ўсяго, што з ёй звязана.

**Поўны тэкст чытайце і больш здымкаў глядзіце тут: http://www.birdwatch.by/naziranni/2220**

